№6(150)
Сакавік 2004

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага цэнтру "Вясна"

## Ціск і запалохваньне

"Беларускія праваабаронцы ўсё часьцей робяцца ахвярамі ціску і запалохваньня з боку ўладаў", – такая высноба зробленая ў адмысловай справаздачы праваабарончай арганізацыі "Amnesty International". У дакуменце адзначаецца, што шмат праваабарончых арганізацыяў у Беларусі былі ліквідаваныя "на падставе сумнеўных законаў і палажэньняў", а прысуды аб ліквідацыі выносіліся судамі, "незалежнасьць якіх неаднаразова ставілася пад сумнеў міжнароднай супольнасьцю". У справаздачы адзначаюцца істотныя абмежаваньні на свабоду слова ў Беларусі, выказваецца меркаваньне, што наступнай ахвярай стануць інтэрнэтныя выданьні, адзначае Радыё Свабода.

## Праца ў СМІ патрабуе мужнасьці...

30 сакавіка інтэрнэт-сайт Міжнароднай Лігі правоў чалавека belarusup-date.org зьмясьціў эксклюзіўнае інтэрв'ю з Хрыстасам Пургурыдэсам – парламентаром Рады Еўропы, аўтарам справаздачы аб зьніклых лідэрах беларускай апазіцыі. Паводле словаў сп. Пургурыдэса, найбольшай перашкодай пры падрыхтоўцы яго дасьледаваньня была немагчымасьць сустрэцца з некаторымі асобамі, што мелі дачыненьне да справы.

Характарызуючы агульную сітуацыю, у якой апынуліся беларускія СМІ, сп. Пургурыдэс адзначыў: «Сёньня праца ў беларускіх незалежных медыях патрабуе вялікай мужнасьці... Мяркую, пакуль міжнародная супольнасьць уважліва сочыць за падзеямі ў Беларусі, рэжым ня зможа паўтарыць тое, што ён зрабіў з Завадзкім. Але ня могуць быць выключаныя аўтакатастрофы... альбо сардэчныя прыступы...» У канцы інтэрв'ю Хрыстас Пургурыдэс выказаў упэўненасьць у неабходнасьці ўвядзеньня санкцыяў супраць беларускага рэжыму.




# Як ва ўмовах акупацыі...

Сёлетняе сьвяткаваньне Дня Волі ў Менску праходзіла нібыта ва ўмовах акупацыі. Усялякае імкненьне грамадзянаў адзначыць сьвяты для іх дзень выклікала перашкоды з боку ўладаў. Па-першае, у апошні момант яны забаранілі правядзеньне сьвяточнай вечарыны ў Доме ветэранаў, няглядзячы на тое, што квіткі на яе былі распаўсюджаныя загадзя, па-другое, 25 сакавіка ў

*(Працяг на стар.2, 6)*




Праход забаронены...




Кветкі Купалу

**Калонка рэдактара**

# 25 сакавіка – шлях у Еўропу

Увесну 1918 году, 86 гадоў таму ў Менску праходзілі адзін за адным сходы прадстаўнікоў беларускага народу – сяброў жаўнерскіх камітэтаў, палітычных партыяў, няўрадавых арганізацыяў, прадстаўнікоў мясцовага самакіраваньня і нацыянальных меншасьцяў. Расейская імперыя развальвалася, і тутэйшыя палітычныя і грамадзкія сілы, якія адчувалі адказнасьць за будучыню Беларусі, мусілі вызначацца – што будзе далей. Сасьпяваньне ідэі незалежнасьці Беларусі, якая ці не ўпершыню была агучаная ў 1914 годзе ў Вільні, адбывалася імгненнымі тэмпамі. І нават тыя палітыкі, якія яшчэ пару месяцаў перад гэтым заўзята выступалі за аўтаномію Беларусі ў складзе Расіі, урэшце вымушаныя былі прызнаць – незалежнасьці няма альтэрнатывы. Урэшце, 25 сакавіка 1918 году было абвешчана пра стварэньне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

І ў тыя гады асноўным стратэгічным пытаньнем было вызначэньне далейшага шляху Беларусі. Куды ісьці? На Захад ці на Усход? Заставацца пад ценем магутнага расейскага суседа з ягонай шматвяковай гісторыяй аўтарытарызму, прыгнёту і нянавісьці да ўсяго нярускага ці вярнуцца ў сям'ю еўрапейскіх народаў. Грамадзкая і палітычная эліты беларускага народу 86 гадоў таму, абвясьціўшы незалежнасьць Беларусі, фактычна выбралі шлях у Еўропу.

Гэтыя каардынаты нашага быцьця засталіся і да сёньня. Менавіта таму сьвяткаваньне 25 сакавіка, Дня незалежнасьці, у сучаснай Беларусі так неадназначна ўспрымаецца ўладамі і апазіцыйнымі дэмакратычнымі сіламі. Менавіта таму ў Менску ўсе апошнія гады без выключэньняў уладамі жорстка падаўляюцца ўсялякія спробы дэмакратычных сілаў ушанаваць гэты дзень нашай гісторыі. Прыходзячы на масавыя акцыі, пікеты, арганізуючы сьвяточныя вечарыны і ўшанаваньні, канцэрты і перформансы ў гэты дзень, мы выступаем за еўрапейскую, цывілізаваную Беларусь, дзе ня будзе месца зьнявагі нашага ўласнага беларускага Я, мы выступаем за дэмакратыю і правы чалавека.

Сёньняшнія беларускія ўлады ня хочуць бачыць Беларусь такой. Яны люта ненавідзяць такія каштоўнасьці, як дэмакратыя, цывілізаваны рынак, правы чалавека. Гэта для іх штосьці незразумелае і варожае. І нават сёньняшняя "газавая вайна" з кіраўніцтвам Расіі не павінна зьбіваць нас з тропу, маўляў, Лукашэнка, урэшце, пачаў бараніць інтарэсы Беларусі. Не. Калі б яму гэта было выгадна, ён бы прадаў Беларусь разам з намі, не вагаючыся ні хвіліны. Бо ёсьць толькі адзіныя інтарэсы, якія ён будзе бараніць насьмерць – гэта ягоныя ўласныя інтарэсы, гэта ягоная асабістая ўлада. І ніякай гаворкі пра тую нармальную незалежнасьць, якая адчыніла б нам дарогу ва ўвесь сьвет, тут не ідзе.

Менавіта таму штогод на 25 сакавіка адбываюцца разгоны дэманстрацыяў, цкаваньне людзей сабакамі, вывад БТРаў на вуліцы Менску і прэвентыўныя затрыманьні ўдзельнікаў сьвяткаваньня. Нават калі гэтыя людзі прыходзяць на сьвята з кветкамі і малымі дзецьмі.

І менавіта таму гэтае сьвята будзе існаваць роўна столькі, колькі будзе існаваць беларускі народ.

А. Б.


Арышт Алеся Бяляцкага. Фота "ПнВ"

# Як ва ўмовах акупацыі...

(Пачатак на стар. 2)
другой палове дня цэнтр Менску быў запоўнены міліцыянтамі і амапаўцамі, якія адсочвалі людзей з бел-чырвона-белымі кветкамі ў руках. Адсочвалі і арыштоўвалі...

Першыя затрыманьні адбыліся на Кастрычніцкай плошчы сталіцы. Валянцін Баранаў, Дзяніс Буйніцкі і Вячаслаў Сіўчык трымалі плакаты "Жыве БНР", "Жыве незалежная Беларусь" і "Беларусы маюць права абіраць уладу". Каб застацца на Кастрычніцкай плошчы яны прыкавалі сябе ланцугамі да слупоў асьвятленьня ўздоўж праспекту Скарыны. Аднак міліцыянты іх вызвалілі з ланцугоў і адвезьлі ў Цэнтральны РУУС.

"Людзі ў цывільным" пачалі зьбірацца да 17-й гадзіны на пляцы Волі. Адзін з іх пачаў выказваць прэтэнзіі маладому хлопцу, які прыйшоў туды ў камуфляжы з нашыўкай, на якой былі выява бел-чырвона-белага сьцягу ды надпіс "Узброеныя сілы Беларусі". Гэтыя прэтэнзіі выклікалі абурэньне тых, хто прыйшоў на сьвяточныя гуляньні – маўляў, самі форму ня носяць ды іншым не даюць. Калі на пляцы Волі сабралася больш за 100 чалавек, чацьвёра ў цывільным схапілі мужчыну ды

(Працяг на стар. 6)


Арышт Валянціна Стэфановіча. Фота "ПнВ"

# Яшчэ адна палітычная справа

## Наступ на праваабаронцаў працягваецца

***Беларускія ўлады не пакідаюць надзеі расправіцца з усімі праваабарончымі арганізацыямі, што працуюць у краіне. Пасьля закрыцьця ГА "Вясна", ГА "Прававая дапамога насельніцтву" і інш. па факце ўхіленьня ад уплаты падаткаў распачатая крымінальная справа супраць старшыні РГА "Беларускі Хельсінскі камітэт" Тацяны Процька. У падтрымку БХК ужо выказалася Міжнародная Хельсінская федэрацыя, якая лічыць, што абвінавачаньні ня маюць законных падставаў і зьяўляюцца спробай зьнішчыць арганізацыю. Пра сітуацыю вакол БХК сьпецыяльна для "Права на Волю" распавядае старшыня Беларускага Хельсінскага камітэту Тацяна Процька.***

***— Раскажыце, калі ласка, пра сутнасьць справы і прад'яўленых абвінавачаньняў.***

— З 2000 году БХК працуе па праектах Еўрапейскай камісіі, у прыватнасьці па праграме TACIS. Згодна з дамовай, што была заключаная паміж кіраўніцтвам Беларусі і Еўракамісіяй у 1994 годзе і дадаткам да гэтай дамовы – Мемарандумам аб характары выкарыстаньня пагадненьня, усе грошы, якія паступаюць па лініі праграмы TACIS, зьяўляюцца тэхнічнай дапамогай і не падпадаюць пад падаткаабкладаньне. Мы, карыстаючыся гэтым Мемарандумам, лічылі правільным падаткі не плаціць.

У жніўні мінулага году падатковая інсьпекцыя Маскоўскага раёну г. Менску пачала комплексную праверку фінансавай дзейнасьці Беларускага Хельсінкскага Камітэту. Нас актыўна правяралі яшчэ з 1995 году. Па працы з праграмай TACIS былі выказаныя некаторыя "заўвагі". Яны тычыліся таго, што мы не плацілі падаткі з гэтых сродкаў. Прычым заўвагі прад'яўляліся з цягам часу розныя. Напачатку нас абвінавацілі ў тым, што мы не зарэгістравалі сродкі ва ўстаноўленым парадку. Мы даказалі, што зарэгістравалі ўсё як трэба. Зараз гэты момант павольна выйшаў са справы. Затым нам інкрымінавалі тое, што гэтыя сродкі зьяўляюцца не тэхнічнай дапамогай,а пазарэалізацыйным даходам нашай арганізацыі. Адпаведна мы павінны плаціць падатак як з пазарэалізацыйнага прыбытку.

У лістападзе, калі ўсё толькі пачыналася, падатковыя санкцыі былі даволі невялікія, каля 2 тысячаў даляраў ЗША. Мы абскардзілі, была паўторная праверка, якая працягвася ўжо да 27 студзеня. Нам прад'явілі новую пастанову падатковай інсьпекцыі, дзе колькасьць падаткаў і штрафных санкцыяў, якія мы павінны кампенсаваць, была прыкладна каля 180 тысячаў даляраў ЗША. 78 мільёнаў беларускіх рублёў нясплочаных падаткаў і штрафныя санкцыі, якія павялічваюць гэтую лічбу амаль у чатыры разы. Атрымліваецца каля 387 мільёнаў беларускіх рублёў.

Цяпер, калі пачала фігураваць такая вялікая сума, у справу павінен быў умяшацца Камітэт па фінансавых расьсьледаваньнях, бо сітуацыя цягне на "злачынства ў асабліва буйных памерах". Адпаведна пачалося расьсьледаваньне, ці ёсьць склад гэтага злачынства, у выніку якога Камітэт прыйшоў да высновы, што склад злачынства ёсьць.

І зараз я хачу сказаць, што ўзбуджэньне крымінальнай справы супраць адказных асобаў БХК сьведчыць аб палітычным і заказным характары гэтай справы. Мы прад'явілі Камітэту па фінансавых расьсьледаваньнях усе дакументы, якія сьведчаць пра тое, што ў краіне існуе, мякка кажучы, непаразуменьне ў тлумачэньні панятку "фінансавая дапамога". Міністэрства эканомікі не разумее гэтыя пытаньні. Бюро TACIS, якое каардынуе дзейнасьць праектаў TACIS ад ураду Беларусі, адназначна сьцьвярджае, што БХК не павінен ніякія падаткі плаціць. Офіс TACIS, які каардынуе дзейнасьць ад Еўрапейскай камісіі таксама пацьвярджае гэта. А ў Міністэрстве эканомікі кожны раз прыдумляюць розныя абставіны і кажуць, што мы плаціць павінны. У падатковай інсьпекцыі ўвогуле кажуць, што "нам ніякія мемарандумы не закон, пакуль няма дэкрэту прэзідэнта ці нейкага ўнутранага заканадаўства па гэтым пытаньні". Відавочна, што ёсьць праблема на заканадаўчым узроўні. Гэтая праблема павінна вырашацца ва ўстаноўленым парадку, праз суд. Калі ж яны ўзбудзілі крымінальную справу, значыць яны гэтага хацелі.

***— У чым вы бачыце палітычны падтэкст гэтых падзеяў?***

— Справа ў тым, што як толькі мне прад'яваць абвінавачаньне, гэта адразу стане нагодай дзеля аўтаматычнага закрыцьця арганізацыі. Я пазбаўляюся магчымасьці недзе паехаць з дакладам. Існуе і магчымасьць вобыску ў любы момант у мяне дома, у офісе, дзе заўгодна. Бо мне інкрымінуецца, што я наўмысна ўхілялася ад уплаты падаткаў.

***— Як вы думаеце, чаму сітуацыя абвастрылася менавіта зараз?***

— Набліжаюцца выбары. Трэба "зачысьціць поле". Усім вядома, што БХК зьяўляўся ініцыятарам праекту калектыўнага назіраньня за выбарамі. Натуральна, для новых парламенцкіх выбараў хочацца мець менш падрыхтаваных і граматных назіральнікаў, якія ведаюць правы і міжнародныя стандарты. Назіральнікі могуць даць справядлівую ацэнку выбарам.

***— Ці была заява па сітуацыі з БХК з боку Еўрапейскай камісіі?***

— Еўрапейская камісія 10 студзеня накіравала вербальную ноту нашаму ўраду, у якой выказала сваё неразуменьне, з просьбай разабрацца ў сітуацыі. Адказ, які дало Міністэрства эканомікі, зьдзівіў. Міністэрства прапанавала нам папрасіць ільготы згодна з дэкрэтам прэзідэнта, прычым на праекты, якія ўжо скончыліся. Мы сказалі, што ня будзем парушаць закон. Таму што закон ня мае зваротнай сілы, і дэкрэт ніяк ня можа зрабіць сітуацыю больш яснай. Па-другое, нам ня трэба прасіць ніякіх ільготаў згодна з дэкрэтам, таму, што мы дзейнічалі паводле Мемарандуму. Зараз амбасадары Еўрасаюзу маюць намер схадзіць да сп. Тозіка, старшыні Камітэту дзяржкантролю і пагутарыць з ім, каб атрымаць ад яго тлумачэньне сітуацыі.

***— На ваш погляд, ці могуць гэтыя падзеі нейкім чынам паўплываць на імідж Беларусі?***

— Гэта шок. Такога ў сьвеце не было. Гэта беспрэцэдэнтны факт. Такое стаўленьне да праектаў Еўракамісіі з боку нацыянальных органаў закрывае еўрапейскі вектар так шчыльна і жорстка, як ніякія палітычныя выказваньні. Ніхто ня ведае, як сябе паводзіць, бо такога

*(Працяг на стар. 7)*




Фота "ПнВ"

Тацяна ПРОЦЬКА выступае на Форуме праваабаронцаў.

# Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА: "Рэпрэсіі – дэманстрацыя слабасьці ўладаў"

***Імя палітыка, старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі зноў на слыху. Супраць яго зноў узбуджаная крымінальная справа па артыкуле «Паклёп на прэзідэнта» (арт.367 ч.2), а таксама ўзноўленая справа па тым жа самым артыкуле толькі ч. 1, якая была прыпыненая ў мінулым годзе. А.Лябедзьку пагражае пакараньне — да 5 гадоў пазбаўленьня волі.***
***Прычынай да ўзбуджэньня справы стала інтэрв'ю Анатоля Лябедзькі праграме расейскага каналу РТР «Зеркало», якое было паказанае 21 лютага, а таксама — у праграме «Намедни» тэлеканалу НТВ 22 лютага. Пракуратура, праналізаваўшы гэтыя выступленьні, знайшла дастаткова прычынаў, каб распачаць крымінальную справу. Сам Анатоль Лябедзька кажа, што не сказаў нічога новага. Факты вядомыя і неаднаразова агучваліся. Ніякіх карэктываў у сваю працу ў сувязі з пагрозай арышту ён уносіць не зьбіраецца, а на пытаньне, «ці страшна?» жартуе, што «праходзіў гэта ў першым класе»...***
***Сп. Лябедзька пагадзіўся распавесьці больш падрабязна пра сітуацыю адмыслова для чытачоў «Права на Волю»:***



Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА.

***— На якім этапе знаходзіцца зараз узбуджаная супраць вас крымінальная справа?***

— Ужо прайшоў першы допыт, у пратакол унесеная заява, што я пакуль устрымліваюся ад дачы паказаньняў і на працягу месяцу абавязуюся прад'явіць пісьмовыя матэрыялы ў пацьверджаньне таго, што прагучала ў інтэрв'ю.

***— Што гэта будуць за дакументы?***

— Дакументы па сутнасьці тых абвінавачаваньняў, якія прад'яўленыя мне пракуратурай. Мы пакуль вывучаем матэрыялы, якія ёсьць. У любым выпадку галоўнымі сьведкамі па гэтай справе павінны быць Аляксандр Лукашэнка, некаторыя міністры і, магчыма, некаторыя дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Гэта ў першую чаргу. Калі яны не пажадаюць быць сьведкамі і прыходзіць у пракуратуру, то знойдзецца дастаткова публічных матэрыялаў, агучаных А. Лукашэнкам у сродках масавай інфармацыі, якія будуць пацьвярджаць тое, што было сказана мной у перадачы «Зеркало» на канале РТР.

***— Словы прэзідэнта і чыноўнікаў у вашай інтэрпрэтацыі...***

— Я ня буду нічога інтэрпрэтаваць, я буду толькі прад'яўляць тое, што ён, прэзідэнт, казаў. Калі Аляксандр Рыгоравіч кажа, што ён купіў амаль 200 «мерсэдэсаў» для «вертыкальшчыкаў» і «ня вашая справа, дзе я гэтыя грошы ўзяў», тут ня трэба ніякай інтэрпрэтацыі. Усё зразумела. Калі гэтыя грошы не з бюджэту, значыць ёсьць іншы бюджэт, ценявы, і Аляксандар Рыгоравіч гэта даказвае сваімі словамі, якія публічна былі агучаныя, выйшлі на мільённую аўдыторыю і былі надрукаваныя ў «Советской Белоруссии». Ці, напрыклад, інтэрв'ю, якое А. Лукашэнка даваў яшчэ ў 1995 газеце «Известия», дзе ён кажа, што «прышлі да мяне з тэатру, просяць грошы, я ім даў». Адкуль узяў грошы – прадаў зброю. Усё чорным па белым.

***— Калі так, то любы чалавек можа зрабіць такія высновы. Як вы думаеце, чаму менавіта на вас была ўзбуджаная крымінальная справа?***

— Ёсьць некалькі тлумачэньняў, ужо агучаных у прэсе. Першае – гэта рэакцыя ўладаў на маю дзейнасьць і на дзейнасьць Аб'яднанай грамадзянскай партыі па кансалідацыі дэмакратычных сілаў у Беларусі. Тое, што мы здолелі аб'яднацца ў фармаце Народнай каліцыі "Пяцёрка-плюс" вельмі нярвуе ўладу. Яны разумеюць, што Народная кааліцыя можа стаць рэальнай альтэрнатывай на бягучай выбарчай кампаніі.

Другая версія: справа ня столькі ў тым, што я сказаў, а справа ў тым, на колькі гучна гэта было сказана. Інфармацыя выйшла на мільённую аўдыторыю. Нічога новага я не агучыў. Пра гэта і раней пісала незалежная прэса. Пра гэта гавораць сёньня дзясяткі тысячаў людзей. Але раней інфармацыя выходзіла на невялікую колькасьць грамадзянаў, у лепшым выпадку на некалькі тысячаў, якія чытаюць незалежную прэсу. А сетка РТР ахоплівае больш за 90 адсоткаў тэрыторыі нашай краіны. Гэты тэлеканал у нас глядзяць. Значыць, інфармацыя выйшла на шырокія групы насельніцтва.

***— Ці была нейкая рэакцыя ад людзей на вашыя словы ў эфіры расейскага тэлеканалу?***

— Так, былі сотні званкоў, прыходзілі лісты па электроннай пошце. Людзі рэагавалі вельмі станоўча. Многія казалі, што яны здагадваліся, і на самой справе так ёсьць. У наступны раз у "Зеркале" можа зьявіцца яшчэ адзін беларускі палітык, і інфармацыя зноў прагучыць. І гэта будзе значыць, што блакада, у якой знаходзіцца большасьць насельніцтва Беларусі, развальваецца. Трэба або закрываць расейскія тэлеканалы, альбо паспрабаваць прымусіць палітыкаў увесьці палітычную самацэнзуру. Запалохаць.

***— Ці атрымаецца?***

— Я думаю, што гэта абсалютна бесьперсьпектыўныя метады псіхалагічнага ўзьдзеяньня. За 10 гадоў рэжым мог бы зрабіць для сябе высновы, што ў Беларусі ёсьць пасьлядоўная апазіцыя, якая мае сваю праграму, сваю ідэалогію і будзе рэалізоўваць гэта на практыцы.

***— Для некаторых у такой сітуацыі лагічным выйсьцем было б зьехаць з Беларусі і папоўніць шэрагі палітычных эмігрантаў...***

— Я думаю, што досьвед палітычнай эміграцыі і для самой апазіцыі, і для нашых прыхільнікаў не дадаў нічога пазітыўнага, таму мая асабістая пазіцыя па гэтым пытаньні абсалютна прынцыповая. Мы будзем працаваць. Пакуль ніякіх карэктываў для сваёй асабістай дзейнасьці і для дзейнасьці Аб'яднанай грамадзянскай партыі мы не рабілі. Мы працуем у тым жа рэчышчы і ў тым жа фармаце. Пытаньне эміграцыі ня тое, што не абмяркоўваецца, пра гэта нават няма думак.

***— Чыя была ініцыятыва выступіць у праграме «Зеркало» ?***

— У нас, на вялікі жаль, няма такой мажлівасьці патэлефанаваць кіраўніку расейскага тэлеканалу і папрасіць выступіць у «Зеркале», ці ў праграме «Намедни». Гэта цікавасьць з боку расейскіх тэлеканалаў. Тэма была прапанаваная расейскім бокам, я прыняў удзел і лічу, што расейскі тэлеканалы застаюцца для нас адной з нямногіх магчымасьцяў выказацца на шырокую аудыторыю Беларусі. Гэта факт. Усё залежыць ад таго, што ты хочаш сказаць, і як ты хочаш сказаць. Мы выказваем сваю прынцыповую пазіцыю па любых тэмах, ці гэта тычыцца беларуска-расейскіх стасункаў, ці сітуацыі ўнутры Беларусі.

***—Журналіст Мікалай Сванідзэ неаднаразова выступаў у прэсе з падтрымкай і казаў, што будзе надалей асьвятляць сітуацыю ў Беларусі.***

— Мікалай Сванідзэ ня толькі гэта абяцаў. Ужо выйшла ў эфір наступная перадача «Зеркало», дзе прагучаў тэ-

лефонны мост з Беларусьсю, у якім я прыняў удзел. Мне далі магчымасьць даць каментар па ўзбуджанай крымінальнай справе. Акрамя гэтага, была асабістая тэлефонная размова з Мікалаем Сванідзэ, дзе ён яшчэ раз сказаў, што тэлеканал РТР бярэ гэтую справу пад кантроль. Гэта значыць, што цікавасьць будзе і надалей.

РТР гэта не звычайны тэлеканал. Гэта "першая кнопка" прэзідэнта Пуціна. І натуральна, што і дырэкцыя тэлеканалу і адміністрацыя Пуціна "зьвяраюць свае гадзіньнікі". Таму ва ўсёй гэтай гісторыі дадаецца новы палітычны падтэкст. Гэта ўжо ня проста справа Анатоля Лябедзькі, а справа, у якую ўцягнуты даволі блізкі Крамлю расейскі тэлеканал. Беларускі бок вымушаны будзе гэта ўлічваць.

Сьледчы заявіў, што ён мае намер арганізаваць допыт і М. Сванідзэ, і Жукава сіламі расейскіх праваахоўных органаў. Калі гэта адбудзецца, то дадасца яшчэ большая інтрыга ўсёй гэтай справе.

***— Прасьцей за ўсё ўладам было б проста адключыць расейскія тэлеканалы і пазбавіцца лішніх праблемаў...***

— Вядома, гэта было б самым эфектыўным для А. Лукашэнкі. Але гэта і самае небясьпечнае. Прасьцей закрыць рот беларускаму палітыку, чым закрыць расейскія тэлеканалы. Па-першае, гэтая ініцыятыва будзе непрымальнай для большасьці насельніцтва Беларусі, якое ў першую чаргу глядзіць расейскія тэлеканалы, а толькі потым беларускае тэлебачаньне.

Па-другое, гэта будзе азначаць, што А. Лукашэнка ідзе на адкрытую канфрантацыю з Крамлём. Гэта азначала б новы этап крызісу ў адносінах паміж Крамлём і беларускім кіраўніцтвам. Думаю, што ў нашай пракуратуры ня хопіць моцы нават на тое, каб учыніць допыт Жукава і Сванідзэ. У іх ёсьць жаданьне для гэтага, але вельмі "слабыя зубы". Ня кажучы пра тое, каб паспрабаваць на свае зубы такі арэх, як канал РТР. Нічога з гэтага не атрымаецца.

***— Як вы ставіцеся да інтэрпрэтацыі дзейнасьці "Пяцёркі-плюс" і апазіцыі ў цэлым дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі?***

— Станоўча. Я лічу, што калі б не гаварыў Пракопаў, Новікаў ды іншыя, калі б не было нікай рэакцыі на нашую дзейнасьць, можна было б сказаць, што "Пяцёрка-плюс" працуе на "двойку". Я не кажу, што мы працуем выдатна. Мы працуем добра.

Адносіны ўлады, уладных структураў і ў тым ліку мас-медыя на дзейнасьць "Пяцёркі-плюс" зьяўляюцца адным з аб'ектыўных крытэрыяў ацэнкі народнай Кааліцыі. Калі б была цішыня, калі б нас ня ўзгадвалі, мы былі б незадаволеныя. А так узбуджаюць крымінальныя справы, не даюць магчымасьці праводзіць сустрэчы ў рэгіёнах, на БТ паказваюць цэлыя серыялы пра нас, значыць мы ідзем у слушным накірунку.

У мяне была нядаўна паездка ў Салігорск. Тым быў арганізаваны мітынг, у якім актыўны ўдзел прынялі людзі, якія яшчэ два гады назад галасавалі за А.Лукашэнку. Нават бабулькі прыйшлі, ня гледзячы на тое, што мерапрыемства было забароненае. У іх няма страху, яны гатовыя змагацца супраць палітыкі росту камунальных плацяжоў. Гэта для нас новы шанц, каб прыцягнуць новых людзей у актыўнае грамадскае жыцьцё.

***— Якім будзе ваш прагноз адносна наступнага этапу выбарчай кампаніі: рэгістрацыі кандыдатаў і фармаваньня выбарчых камісіяў.***

— Можна прагназаваць, што ўлада зробіць усё , каб людзі з адзінага сьпісу не былі зарэгістраваныя. Сёньня ўжо фактычна прынята рашэньне аб скасаваньні рэгістрацыі каля 95 адсоткаў рэгіянальных структураў палітычных партыяў. Большасьць з іх зарэгістраваныя па прыватных адрасах, а Міністэрства юстыцыі патрабуе, каб рэгістрацыя была праведзеная па-за межамі жыльлёвага фонду.

У нас хочуць забраць магчымасьць вылучэньня кандыдатаў у дэпутаты праз нашыя рэгіянальныя партыйныя структуры. Вертыкаль робіць усё магчымае, каб ніводная прыватная структура не прадставіла рэгіянальным аддзелам палітычных партыяў юрыдычны адрас. Гэта, відаць, будзе самай галоўнай задачай, якую будзе спрабаваць вырашаць улада.

Знойдуцца іншыя кандыдаты. Будуць казаць, што выбары альтэрнатыўныя, што на акрузе па 5-6 чалавек. Але задача будзе не дапусьціць нашых людзей да выбарчай кампаніі. Можна ўкрасьці дэпутацкі мандат, але яны разумеюць, што больш эфектыўным будзе ўкрасьці ў кандыдата ад "Пяцёркі-плюс" магчымасьць папрацаваць з насельніцтвам, з выбаршчыкамі.

***— У вас ёсьць нейкая стратэгія, тактыка ў адказ на такія дзеяньні?***

— Натуральна, ёсьць прапісаная стратэгія, ёсьць план канкрэтных дзеяньняў. Самае галоўнае – гэта рэалізацыя гэтай стратэгіі. Яна скіраваная на перамогу, і мы ставім нашай задачай падчас выбарчай кампаніі прад'явіць грамадзтву альтэрнатыву, якую чакае і хоча бачыць 75% навельніцтва Беларусі. Пры ўмове, што нашыя кандыдаты будуць зарэгістраваныя, мы зможам разьлічваць на тое, што яны атрымаюць падрымку большасьці насельніцтва Беларусі.

Наконт выбарчых камісіяў – тут магчымасьці абмежаваныя. Мы падалі сьпісы нашых кандыдатаў у выбарчыя камісіі. Гэта вельмі паважаныя людзі. Але верагоднасьць іх уключэньня ў камісіі вельмі невялікая.

Мы можам прайграць барацьбу за дэпутацкія мандаты, хоць мы будзем змагацца за перамогу, якую ў нас паспрабуюць украсьці.

***— У сваіх інтэрв'ю вы казалі, што ўзбуджэньне супраць вас крымінальнай справы – гэта слабасьць рэжыму. У чым гэтая слабасьць заключаецца?***

— Калі закрываюць газету, грамадзкую арганізацыю, дзе працуе некалькі дзясяткаў людзей, ці ўзбуджаюць крымінальную справу па палітычных матывах – усё гэта сьведчыць пра слабасьць рэжыму. Калі б А. Лукашэнка і "вертыкаль" кантралявалі сітуацыю, і яго рэальны рэйтынг быў бы за 50 адсоткаў, нічога такога б не адбывалася. Яны пачуваліся б упэўнена, ніякай пагрозы ні ад газеты, ні ад грамадзкай арганізацыі, ні ад асобнага палітыка не было б. Але тое, што адбываецца зараз, якраз сьведчыць пра абсалютную слабасьць рэжыму. Рэпрэсіі — гэта заўсёды інструмент, які дэманструе слабасьць уладаў, а ня іх сілу.

**Гутарыла Ядвіга МАЦКЕВІЧ.**

# Хроніка

## Выклік у пракуратуру

29 сакавіка кіраўнік Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі быў выкліканы ў рэспубліканскую пракуратуру на "гутарку" да пракурора Новікава, які займаецца пытаньнямі дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў, палітычных партыяў, рэлігійных арганізацыяў, СМІ.

Размова была нядоўгай, ніякія запісы не вяліся. Пракурор задаў некалькі пытаньняў, датычных дзейнасьці Бяляцкага ў няўрадавых арганізацыях – у якіх арганізацыях ён бярэ ўдзел, ці мае дачыненьне да Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў і яе часопісу. Асабліва цікавіла пракурора Новікава, ці шмат Алесь Бяляцкі бывае за мяжой, бо ўбачыў у ягоным пашпарце шмат візаў і пячатак, а таксама – за якія сродкі ён жыве.

Алесь Бяляцкі адказаў, што згодна з артыкулам 27 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь ён мае права не даваць інфармацыю, якая можа быць скарыстаная супраць яго. Пракурор на гэта адзначыў, што яшчэ, магчыма, знойдзецца нітачка, за якую ён пацягне, і іх размова з праваабаронцам працягнецца.

Напярэдадні гэты ж пракурор выклікаў некалькі чалавек, пазначаных у рэдакцыі часопісу "Асамблея", якія былі дапытаныя на прадмет сваёй датычнасьці да гэтага часопісу. У выпадку ж з Бяляцкім пытаньні закраналі значна шырэйшае кола праблемаў, у тым ліку нават асабістага жыцьця, што, бясспрэчна, зьяўляецца перавышэньнем паўнамоцтваў спадара Новікава.

Бяляцкі лічыць, што пракуратура атрымала пэўны сацыяльны заказ, і асноўная прычына ягонага выкліку ў пракуратуру зьвязаная з агульным ціскам на няўрадавыя арганізацыі, які ўзмацніўся апошнім часам.

Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна».

## У падтрымку праваабаронцаў

Польскае аддзяленьне аўтарытэтнай праваабарончай арганізацыі "Amnesty International" распачало акцыю ў падтрымку абаронцаў правоў чалавека ў Беларусі. Арганізацыя заклікае палякаў пісаць лісты ў Міністэрства юстыцыі Беларусі з патрабаваньнем гарантаваць беларускім праваабаронцам выкананьне права на свабоду аб'яднаньняў.

29 сакавіка "Amnesty International" распаўсюдзіла адмысловую справаздачу, у якой адзначаецца, што абаронцы правоў чалавека ў Беларусі ўвесь час мусяць змагацца з перашкодамі, якія паўстаюць з боку дзяржавы – іх перасьледуюць і запалохваюць.

# Як ва ўмовах акупацыі...

(Пачатак на стар. 1-2)

пацягнулі ў міліцэйскую машыну, што выклікала пратэсты прысутных і крыкі. Калі на пляц Волі прыйшлі прадстаўнікі Партыі БНФ Вінцук Вячорка ды Алесь Бяляцкі, трое людзей у цывільным раптам накінуліся на А.Бяляцкага, павалілі і пачалі цягнуць у машыну. Затым арыштавалі і В. Вячорку. Далей зачыстку на пляцы Волі распачалі амапаўцы. Большую частку людзей выціснулі ў бок станцыі метро "Няміга". Іншыя пайшлі па вуліцы Інтэрнацыянальнай да помніка Янку Купалу, але па дарозе некаторых таксама затрымалі.

Усяго ў Цэнтральны РУУС г. Менску было дастаўлена больш за дзесяць чалавек. Пасьля таго, як яго выпусьцілі, Вінцук Вячорка заявіў Радыё Свабода, што ў пастарунку выявілася — арыштамі займаліся амапаўцы з Расеі, якія прыехалі ў Беларусь на "стажыроўку".

Пакуль затрыманых адвозілі ў міліцыю, астатнія прайшлі з пляцу Волі ў парк імя Янкі Купалы. Людзі ўскладалі кветкі да помніку Купалу й сьпявалі.

Завяршыліся сьвяткаваньні ў Менску ў Доме літаратара вечарынай з удзелам паэтаў і пісьменьнікаў.




Пікеты і мітынгі адбыліся ў гэты дзень ва ўсіх абласных гарадах Беларусі і большасьці раённых. Дзень Волі адзначалі беларусы таксама ў многіх еўрапейскіх сталіцах.

25 сакавіка на плошчы Свабоды ў Менску былі затрыманыя:

1. ***Алесь Бяляцкі*** — старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна" (пры затрыманьні зьбілі з ног і працягнулі па зямлі
2. ***Валянцін Стэфановіч*** — юрыст Праваабарончага цэнтру "Вясна" (быў затрыманы, калі кінуўся на дапамогу А.Бяляцкаму)
3. ***Вінцук Вячорка*** – страшыня Партыі БНФ
4. ***Валянцін Мацкевіч***
5. ***Уладзімір Кішкурна*** – Старшыня Менскай гарадзкой арганізацыі партыі БНФ
6. ***Андрэй Козел*** – намесьнік старшыні Менскай гарадзкой арганізацыі АГП
7. ***Рыгор Кійко***
8. ***Яўген Скочка***
9. ***Вячаслаў Сіўчык***
10. ***Дзяніс Буйніцкі***
11. ***Вячаслаў Баранаў***
12. ***Алег Гнедчык.***












# "...Білі па твары, па нырках, жываце і руках..."

## Сьведчаньні Андрэя Козела, затрыманага і зьбітага 25 сакавіка на плошчы Свабоды ў Менску

"На плошчу Свабоды я прыехаў прыкладна ў 16.50. На той момант там прысутнічала каля 40 чалавек, якія прыйшлі сьвяткаваць Дзень Волі, і каля 40 "людзей у цывільным". Праз некалькі хвілінаў палкоўнік Гірэль з двума брытагаловымі людзьмі ў цывільным падышлі да маладых людзей (14-16 гадоў) і ў агрэсіўнай форме пачалі загадваць ім пакінуць тэрыторыю плошчы. Я падышоў да палкоўніка і запытаўся, чаго менавіта ён жадае і чаму чапляецца да моладзі. Гірэль пачаў мяне прымушаць пакінуць плошчу, на што я адказаў, што як грамадзянін РБ магу знаходзіцца дзе заўгодна і калі заўгодна. Афіцэр стаў лаяцца матам і загадаў двум брытагаловым, якія былі каля яго, схапіць мяне. Брытагаловыя імгненна заламалі мне рукі і павялі да «варанка», але ў гэты момант на нас зьвярнулі ўвагу іншыя прысутныя на плошчы, яны абступілі цесным колам брытагаловых. Падышлі журналісты, якія пачалі цікавіцца прычынай майго затрыманьня, на што Гірэль нічога дакладнага не змог сказаць — і ў выніку ім давялося адпусьціць мяне.

Праз пяць хвілінаў зьявіліся калоны АМАПу, якія прайшлі па вуліцы Інтэрнацыянальнай да скрыжаваньня з плошчай Свабоды і там, расьцягнуўшыся ў ланцуг, пайшлі на людзей. Пачалі падымаць людзей, якія сядзелі на лаўках і мажліва ніякага дачыненьня да сьвяткаваньня ня мелі. У той момант я, у знак супраціву, сеў на плошчы і працягваў сядзець, пакуль мяне сілай не паднялі і не заламалі рукі. Адразу мной занялося трое амапаўцаў, якія, правёўшы метраў дзесяць, перадалі мяне брытагаловым у цывільным, тым самым, што затрымлівалі мяне раней. Яны павялі мяне ў накірунку да метро «Няміга», дзе стаяў амапаўскі ЗІЛ (па дарозе да грузавіку-аўтобусу адзін з іх некалькі разоў ударыў мяне ў жывот). Кінуўшы ў грузавік, пачалі зьбіваць мяне: білі па твары, па нырках, жываце і руках. Прычым адбывалася ўсё вельмі жорстка і адзін з іх — чалавек невысокага росту — доўгі час паўтараў: «ды мы такіх, як ты, у Чачні...». Праз пэўны час яны пачалі, з яшчэ большай злосьцю, зрываць з маіх плячэй нашыўкі з бел-чырвона-белым сьцягам і «Пагоняй». Праз некалькі хвілінаў у грузавік прывялі жанчыну сярэдняга ўзросту — Веру, якая жадала разрадзіць абстаноўку і разьвешвала кветачкі па амапаўскім аўтобусе. На тэлефон некалькі разоў тэлефанавалі розныя людзі, і пасьля таго, як я сказаў аднаму журналісту, што мяне зьбівалі, амапавец выхапіў у мяне тэлефон.




Прыкладна праз пяць хвілінаў прыйшла рота АМАПу, і мяне перавялі ва УАЗ, у якім сядзеў нейкі афіцэр АМАПу, які доўгі час расказваў, што ў нас «харошая» ўлада і ўвесь народ яна задавальняе. Потым мяне адвезьлі ў РАУС Цэнтральнага раёну, дзе павялі ў актавую залю, у якой знаходзілася ўжо чалавек пятнаццаць затрыманых, сярод якіх былі вядомыя мне Вінцук Вячорка, Валянцін Стэфановіч і інш. Мяне адразу пацягнулі на допыт...

Дзесьці ў 19.50 мяне адпусьцілі, і я выйшаў з будынку. Мне было досыць цяжка рухацца і цяжка дыхаць. Была толькі адна думка: «Заўтра трэба ісьці на медэкспертызу»

## Арышт у Слоніме

23 сакавіка ў Слоніме былі затрыманыя міліцыяй прадстаўнікі Народнай кааліцыі "Пяцёрка-плюс" – намесьніца старшыні Партыі камуністаў беларускай Алена Скрыган, старшыня партыі БНФ Вінцук Вячорка і сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Паўлаў. Яны прыехалі ў Слонім па запрашэньні дэпутата мясцовага савету Івана Шэгі на сустрэчу з выбаршчыкамі. Планавалася правесьці сустрэчу ў школе, але яна была зачыненая. Было вырашана праводзіць сустрэчу ў школьным двары, на лаўках. Як толькі менскія госьці пакінулі сустрэчу, іх затрымала міліцыя і канваявала да Раённага аддзелу ўнутраных справаў. Каля РАУСу пратрымалі дзьве з паловай гадзіны, забралі пашпарты і спрабавалі зацягнуць у памяшканьне, каб скласьці пратаколы – прысутныя адмовіліся. Урэшце рэшт, вярнулі пашпарты, але паабяцалі, што будуць складзеныя пратаколы паводле артыкулу Адміністратыўнага кодэксу 167-1 (парушэньне парадку ды арганізацыі мітынгаў і сходаў).

# Ліцэй жыве ў нашых сэрцах

24 сакавіка каля 60 ліцэістаў сталі ўздоўж прасьпекту Францішка Скарыны насупраць універсаму "Цэнтральны", сьпяваючы "Гаўдэамус" і трымаючы ў руках плакаты. Завершылася акцыя мастацкім перформансам у парку імя Горкага. Падчас акцыі да ліцэістаў падышлі міліцыянты і пачалі забіраць плакаты. Потым затрымалі бацьку ліцэіста Яўгена Грыневіча Юрыя, які стаяў побач з дзецьмі і рабіў фотаздымкі. Міліцыянты адвялі Юрыя Грыневіча ў гарадзкі аддзел міліцыі, што на вуліцы Леніна.

Падчас акцыі ліцэістаў здымалі на відэакамеру людзі ў цывільным. Калі па завяршэньні перформансу большасьць ліцэістаў пакінулі парк імя Горкага, міліцыянты затрымалі пяцёх навучэнак ліцэю — Адэлю Дубавец, Юлю Бандарэнку, Вольгу Кавалёву, Марылю Васючэнку, Тацяну Абрамчук, а таксама трох дзяўчынак, якія назіралі за перформансам у парку. Пазьней усіх затрыманых выпусьцілі, пратрымаўшы пэўны час у апорным пункце міліцыі Партызанскага раёну.









Пікетаваньне ліцэістаў.

# Яшчэ адна палітычная справа

(Пачатак на стар. 3)

не было ніколі і думаю, што ня будзе. Пагроза пасадзіць у турму на 3-7 гадоў старшыню праваабарончай арганізацыі, сябра міжнароднай Хельсінскай федэрацыі за тое, што арганізацыя не заплаціла падаткі з праектаў ТАСІС – гэта шок. Гэтага проста ня можа быць. Але, на жаль, у нас гэта магчыма.

Гэтая сітуацыя вельмі шкодзіць міжнароднаму іміджу Беларусі і пазбаўляе грамадзянаў Беларусі магчымасьці атрымліваць субсідыі Эўрапейскага Саюзу. Субсідыі плануюцца ў рамках тых праграмаў, якія зьвязаныя з пашырэньнем ЕС да межаў Беларусі. Фактычна гэтых грошай нас пазбаўляюць. 80 адсоткаў усіх гэтых сродкаў Еўракамісіі ідуць на сацыяльныя праграмы, на праграмы, зьвязаныя з ліквідацыяй наступстваў Чарнобыльскай аварыі, на добраўпарадкаванне мяжы.

***— Што вы плануеце рабіць далей?***

— Мы абскардзілі рашэньне, рыхтуем дакументы ў Гаспадарчы суд. Будзем спрабаваць адмяніць рашэньне. Зараз мы падалі заяву сьледчаму аб спыненьні крымінальнай справы. Мы дзейнічаем у межах тых магчымасьцяў, якія нам дае нашае заканадаўства.

***З юрыдычнага пункту ацэнку сітуацыі дае Гары Паганяйла, юрыст РГА "Беларускі Хельсінскі камітэт".***

***— Ці ёсьць нейкія юрыдычныя падставы дзеля ўзбуджэньня справы?***

— Няма ніякіх падставаў для ўзбуджэньня крымінальнай справы.

***— Ці карэктная інтэрпрэтацыя заканадаўства, якую робіць Міністэрства фінансаў?***

— Гэта абсалютна непісьменна. Неабходна як мінімум паважаць міжнародныя дамовы, якія змацаваныя пячаткай з боку ўраду Рэспублікі Беларусь і падпісаныя намесьнікам прэм'ер-міністра. У чым сутнасьць праблемы? А сутнасьць у тым, што у гэтай дамове і агульных правілах прымяненьня Мемарандуму аб фінансаваньні, закладзеная норма, паводле якой удзельнікі беларускага боку кантрактаў па праграме ТАСІС вызваляюцца ад выплаты падаткаў і ўсялякіх мытных плацяжоў.

***— У Мемарандум ня ўносіліся ніякія праўкі ці карэктывы?***

— Не, нічога такога не было. Калі ёсьць спрэчныя пытаньні, неабходна сесьці за стол перамоваў, выпрацаваць новыя правілы і падпісаць дадатковыя прававыя дакументы, якія сталіся б неад'емнай часткай Мемарандуму. Альбо спыніць супрацоўніцтва. Трэцяга няма. А ў нас што атрымліваецца,— у аднабаковым парадку беларускі бок кажа, што "ўсе гранты падлягаюць на агульных падставах падаткаабкладаньню".

***— У фармулёўцы абвінавачаньняў прысутнічае слова "наўмыснае" ўхіленьне ад падаткаў ...***

— Гэта значыць, што наш кіраўнік і галоўны бухгалтар павінны былі ўнесьці ў бухгалтарскія зьвесткі па ўліку за гаспадарча-фінансавыя аперацыі, якія прадстаўляюцца падатковым службам, заведама ілжывыя зьвесткі. Гэтай заведамасьці ў іх дзеяньнях няма. Гаворка ідзе пра няправільную інтэрпрэтацыю дзеючай для Рэспублікі Беларусь міжнароднай дамовы.

Мы ўсе разумеем, што пытаньне ня ў тым, як разумеюць чыноўнікі той ці іншы закон і ў прыватнасьці нормы гэтай міжнароднай дамовы. А ў тым, што некаму хочацца асудзіць і забараніць.

***— Якія дзеяньні зараз рыхтуе юрыдычная служба БХК?***

— Як толькі мы дачакаемся новага, ужо трэцяга рашэньня падатковай інсьпекцыі, мы тут жа яго абскардзім у Гаспадарчым судзе. Зыскавая заяв з намі ўжо фактычна падрыхтаваная. Мы чакаем, што гэта адбудзецца не пазьней чым 5-10 красавіка. Мы зьбіраемся прадставіць пераканаўчыя дакументы ў Гаспадарчы суд.

Ядвіга МАЦКЕВІЧ.

# Ціхая ліквідацыя

***Пад пагрозай закрыцьця апынуўся Нацыянальны навукова-асьветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны***

Пасьля ліквідацыі Нацыянальнага дзяржаўнага ліцэю імя Я. Коласа пад пагрозай зьнішчэньня апынулася яшчэ адна ўстанова. Напрыканцы мінулага году першы намесьнік міністра адукацыі РБ А.Жук выступіў з ініцыятывай перадачы Нацыянальнага навукова-асьветніцкага цэнтру імя Ф. Скарыны ў падпарадкаваньне ўстанове адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М.Танка». У такім выпадку Цэнтр пазбавіцца статусу юрыдычнай асобы і ўласнага рахунку. Непазьбежным будзе згортваньне шматлікіх навуковых і асьветніцкіх праектаў, якія на працягу многіх гадоў вядзе Цэнтр. Надалей дастаткова будзе зусім невялікага намаганьня ці дробнага непаразуменьня з кіраўніцтвам Педуніверсітэту, каб легендарны Скарынаўскі цэнтр стаў часткай нашай гісторыі...

Скарынаўскі цэнтр быў створаны ў 1991 годзе. Распачынаў яго працу знаны навукоўца Адам Мальдзіс. Напачатку арганізацыя існавала ў структуры Нацыянальнай Акадэміі навук і непасрэдна падпарадкоўвалася Міністэрству культуры. У 1993 годзе Цэнтр перайшоў у падпарадкаваньне Міністэрства адукацыі. Пасьля рэарганізацыі, якая плануецца цяпер, Цэнтр страціць статус "нацыянальнага" і ператворыцца ў падразьдзяленьне навучальнай установы. Ва універсітэце абяцаюць захаваць памяшканьне на вул. Рэвалюцыйнай у Менску. Аднак паводле меркаваньня супрацоўнікаў Цэнтру, такія зьмены – гэта першы крок да закрыцьця.

У адказ на захады Міністэрства калектыў Нацыянальнага навукова-асьветніцкага цэнтру імя Ф. Скарыны накіраваў ліст прэм'ер-міністру РБ С. Сідорскаму, у якім пазначана, што "ў выніку такой рэарганізацыі Цэнтр губляе высокі статус установы агульнанацыянальнага маштабу, пад пытаньне ставяцца магчымасьці рэалізацыі навуковых і асьветных праектаў, якія выходзяць далёка за межы сістэмы адукацыі. Падобныя крокі накіраваныя фактычна на дэстабілізацыю сітуацыі ўнутры краіны, на падрыў аўтарытэту дзяржавы і ўлады ў вачах міжнароднай супольнасьці, у тым ліку і беларускай дыяспары."

Свой каментар гэтым падзеям даюць "ПнВ" кіраўнікі і супрацоўнікі Скарынаўскага цэнтру.

***Любоў УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК, дырэктар Нацыянальнага навукова-асьветніцкага цэнтру імя Ф. Скарыны:***

— Мы хочам адстаяць Цэнтр як незалежную навукова-дасьледчую інстытуцыю, дзейнасьць якой можна назваць унікальнай. Такога інстытуту няма ў сьвеце. Вельмі істотна, што гэта дзяржаўны інтытут. У нас працуе культурная нацыянальная эліта. Доўгі час Цэнтр захоўваўся як самастойная адзінка, юрыдычная асоба. Мы супрацоўнічалі з ведамствамі, міністэрствамі і грамадзкімі арганізацыямі. За апошнія гады было некалькі спробаў ліквідацыі ці рэарганізацыі Цэнтру з боку Міністэрства адукацыі. Можна зразумець Міністэрства адукацыі, бо нашая дзейнасьць выходзіць далёка за сістэму адукацыі.

Апошнім часам Цэнтр зацьвердзіў новыя напрамкі дзейнасьці. Мы сапраўды пачалі працаваць як Інстытут Беларусі, без усялякага перабольшваньня. Наш праект па стратэгіі нацыянальна-культурнага і духоўнага разьвіцьця быў падтрыманы АБСЕ і ЮНЭСКА.

***— Што канкрэтна сталася прычынай да правядзеньня рэарганізацыі?***

— Ня ведаю. Мае здагадкі маюць інтуітыўны характар і не пацьвярджаюцца дакументамі, таму я не зьбіраюся іх агучваць. Я хачу сказаць, што гэты крок непрадуманы, нелагічны і непасьлядоўны. Гэта не дзяржаўны падыход. У людзей, якія прымалі гэтае рашэньне, выяўляецца адсутнасьць патрыятызму, адказнасьці і дзяржаўнага мысьленьня. Гэта відавочна. Мала хто ведае пра гэтыя зьмены, якія з намі адбываюцца. Людзі зьдзіўляюцца і ня вераць, што такая сітуацыя магчымая. Перадача Цэнтру педагагічнаму універсітэту і пазбаўленьне права юрыдычнай асобы фактычна азначае ліквідацыю арганізацыі...

***— Ці вядомая вам пазіцыя ўладаў па гэтым пытаньні?***

— Пазіцыя міністэрства адназначная. А іншым няма справы, бо лічыцца, што калі Цэнтр падпарадкоўваецца Міністэрству адукацыі, значыць усіх астатніх яго праца ня тычыцца. Тое што арганізацыя пераходзіць пад кіраўніцтва педагагічнага ўніверсітэту, не адпавядае ні мэтам, ні задачам, ні статусу Цэнтру. Многія зьдзіўляюцца, не пагаджаюцца, але ці будуць нейкія крокі з іх боку, каб гэтае рашэньне зьмяніць, я сказаць не магу.

***— Калі рэарганізацыя адбудзецца, якія перспектывы, на вашую думку, чакаюць Цэнтр?***

— Нават калі арганізацыя захаваецца ў якасьці нейкага структурнага падразьдзяленьня, на справе гэта будзе азначаць яе паступовае зьнішчэньне.

Для нас сёньня галоўнае — захаваць тое, што магчыма. Захаваць "закваску" – кадры, напрацоўкі і традыцыі з тым, каб пры спрыяльных умовах можна было б усё гэта адрадзіць і пашырыць. А ў якім стане будзе знаходзіцца Цэнтр пры універсітэце, я пакуль што не гатовая адказаць. Думаю, гэтага ня ведае ні рэктар, ні само Міністэрства. Поўнай карціны ня маюць і там. У любым выпадку мы працягваем змагацца за тое, каб спыніць наступствы гэтай непрадуманай дзяржаўнай акцыі. Мы зробім усё магчымае.

**Уладзімір КОНАН, доктар філасофскіх навук, прафесар, намесьнік дырэктара Цэнтру:**

— Многае залежыць ад стратэгіі разьвіцьця вышэйшай адукацыі. Справа ў тым, што ўсе еўрапейскія універсітэты маюць у сваім складзе навукова-дасьледчыя інстытуты, якім нададзены статус юрыдычнай асобы. Фактычна навука ў Еўропе ствараецца ва універсітэтах. Таму калі педагагічны універсітэт атрымае ў нашай асобе такі навукова-асьветніцкі дасьледчы інстытут з захаваньнем статусу юрыдычнай асобы, то гэта было б правільна. Добра было б, каб рэарганізацыя адбывалася па еўрапейскім шляху. Але ў нас задумаюць адно, а робяць іншае. За намі зацьверджаныя дзяржаўныя тэмы і мэты, якія павінны выконвацца, а каб яны выконваліся, хаця б часткова, трэба падтрымка. Але сродкі эканомяць у нас не на вялікіх арганізацыях, а на беларускіх...

**Мікола КРУКОЎСКІ, доктар філасофскіх навук, прафесар:**

— Калі адбудзецца пераход Цэнтру пад кіраўніцтва педагагічнага універсітэту, гэта фактычна будзе азначаць ліквідацыю. Цэнтр перастане быць беларускай асьветніцкай арганізацыяй. Памяшканьне, у якім мы зараз месьцімся, мае для нас вялікае значэньне. Некалі менавіта тут быў створаны "Інбелкульт". Гэтая традыцыя нам вельмі дарагая, мы яе шануем і захоўваем.

Калі кіраўніцтва універсітэту будзе ўмешвацца ў працу Цэнтру цалкам магчыма, што можа быць перакрэсьленая і тэматыка нашай дзейнасьці. А памяняць тэматыку азначае памяняць душу. Тэматыка – неад'емная частка працы арганізацыі як установы разьвіцьця нацыянальнай культуры. Пры іншых умовах, з часам, "Нацыянальны навукова-асьветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны" мог бы стаць моцнай нацыянальнай арганізацыяй.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, доктар гістарычных навук, прафесар:**

— Рэарганізацыя – гэта адназначна шлях да закрыцьця. Умовы такія, што Цэнтр будзе фактычна пазбаўлены фінансаваньня. Магчыма, ён ператворыцца ў навукова-асьветніцкі аддзел педуніверсітэту. Пры скарачэньні фінансаваньня і пазбаўленьні статусу юрыдычнай асобы арганізацыю будзе вельмі проста зачыніць. Гэта наступствы агульнай палітыкі скарачэньня беларускіх установаў. У гэтым меркаваньні няма ніякіх асабістых выпадаў супраць каго-небудзь. Гэта агульнае рэчышча антынацыянальнай палітыкі. Я увогуле аптыміст, але ў гэтай сітуацыі мы робім, зьвяртаемся, але спадзяваньняў няма.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ.**

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага цэнтру "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі:
220012 Менск, а/с 20.
E-mail:viasna@spring96.org
www.spring96.org

У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ПЦ "Вясна"